

№ 23 (136)
Чэрвень 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года



**Выстаўка**

## Любая Жыткаўшчына



У Мінску жыве цікавы сямейны дуэт фотамастакоў. Ірына Аляксандрава – ганаровы член Каралеўскай Нацыянальнай акадэміі мастакоў Велікабрытаніі, а Яўген Бардукоў – член Саюза журналістаў. З вялікай любоўю да традыцый палешукоў, да іх абрадаў, цудоўных краявідаў і турыстычных шляхоў старажытнай зямлі Кірылы Тураўскага яны аб'ехалі і абхадзілі ўсю жыткавіцкую зямлю, каб падрыхтаваць выстаўку «Традыцыйная, самабытная культура, прырода Жыткавіцкага раёна», адкрыццё якой 27 чэрвеня прымеркаванае да дня вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.

Шмат пашчыравалі, каб выстава гэтая адбылася, супрацоўнікі аддзела культуры Жыткавіцкага райвыканкама на чале з начальнікам Адамам Купрацэвічам, загадчыца цэнтра фальклору Галіна Лой, дырэктар РДК Т. Яўлаш. Не засталіся ўбаку ад падзеі і фальклорныя калектывы сельскіх Дамоў культуры і клубаў. Старажытныя абрады, выдатныя краявіды, захавальнікі і носьбіты культурнай спадчыны Тураўшчыны – усяго 50 фотаздымкаў пабачыць глядач у раённым Доме культуры. Адкрыццё плануецца на ўзроўні старшыні райвыканкама Пятра Савіцкага і ягонага намесніка Уладзіміра Гулюты.

Прапануем некалькі фотаздымкаў з новай выстаўкі



і запрашаем усіх на гасцінную Тураўскую зямлю, у госці да палешукоў! Ганарымся і тым, што ідэю гэтага праекта падтрымаў і прыклаў намаганні ў падрыхтоўцы Беларускі фонд культуры.

*Мікола КОТАЎ, удзельнік творчага праекта*



*На здымках: народны ансамбль «Жытніца» Жыткавіцкага РДК; музыка Рыгор Шруб з в. Хільчыцы; стары масток.*



## Музей нашай, 25-й

Наш музей быў заснаваны ў 1987 годзе пасля першай фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі ў вёску Галаўцы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. На працягу наступных гадоў былі наладжаны экспедыцыі ў вёску Зялёная Дуброва Барысаўскага раёна Мінскай вобласці і ў вёску Брэскія Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. З вёсак было прывезена каля 500 экспанатаў побыту нашага народа. Экспанаты збіраліся таксама вучнямі падчас летніх канікул у вёсках, папаўняліся бацькамі, настаўнікамі, жыхарамі Заводскага раёна пасля экскурсій, лекцый па прапагандзе краязнаўчага матэрыялу. З цягам часу вучні прыносілі прадметы школьнай атрыбутыкі канца XIX – пачатку XX ст., старыя кнігі. Музей пачаў працаваць па накірунках, пачалося летапісанне школы. Вывучыўшы архіўныя дакументы, пошукавая група высвятліла, што да Вялікай Айчыннай вайны існавала 25-я школа імя А. Чарвякова, у якой вучылася Рыма Шаршнёва. Яе імя цяпер носіць наша гімназія.

У рамках турыстычна-краязнаўчай экспедыцыі «Наш край» пачаў дзейнічаць трэці накірунак работы нашага музея – «Патрыёты Бацькаўшчыны», прысвечаны ваенна-патрыятычнаму выхаванню. Вучні сабралі вялікую колькасць экспанатаў ваеннага часу, вядуць актыўную пошукавую і даследчую работу сярод ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, выпускнікоў даваеннай школы імя Чарвякова, праводзяць лекцыі, сустрэчы з ветэранамі, аказваюць дапамогу ўдзельнікам вайны і работнікам тыла, вядуць працу па ўвекавечванні імя адважнай партызанкі Рымы Шаршнёвай.

Музей з'яўляецца цэнтрам ідэйна-патрыятычнага выхавання, пошукавай, даследчай дзейнасці, ажыццяўляе збор, захаванне і экспанаванне матэрыялаў, праводзіць экскурсійна-прапагандысцкую працу па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, вывучае культурную спадчыну беларуская народа.

**Наталля БЕЛАЯ, Лізавета ЕРМАКОВА, вучаніцы 9 «Д» класа гімназіі № 25 г. Мінска**

На здымку: ветэраны вайны ў музеі гімназіі.

**Школьнае краязнаўства**

*Аўтар сённяшняй публікацыі Вітаўт Ермалёнак добра вядомы ў настаўніцкіх, навуковых і краязнаўчых колах (і не толькі нашай краіны), чытачам нашай газеты. Сённяшні артыкул можна расцэньваць не толькі як расповед пра знаходкі школьнікаў-пашукавікоў, але і як спробу падзяліцца доследам сістэмнай краязнаўчай працы, падрыхтоўкай да пошукаў і іх правядзеннем. Мяркуем, прыдасца і маладзейшым, і краязнаўцам са стажам. Пазней мы мяркуем знаёміць з больш падрабязнымі расповедамі пра найбольш плённыя вандроўкі, дзе кожны зможа знайсці штосьці для ўласнага скарыстання. Дзеля такога абмену думкамі, знаходкамі, методыкай працы і створаная «Краязнаўчая газета».*

*(Чытайце на стар. 4)*





# Яшчэ раз успомнім Васіля Быкава

*А ўспомнім добрым словам у сувязі з рознымі акалічнасцямі: славуты наш пісьменнік нарадзіўся ў чэрвені, сёлета мы маглі б святкаваць яго 82-годдзе, маладосць яго прыпала на час вайны, на якой ён праявіў гераізм і лічыўся загінулым. І, безумоўна, гонар і слава Васілю Уладзіміравічу, што ён пра свой ваенны лёс, пра лёс свайго пакалення, беларускага народа напісаў сусветна вядомыя творы.*

*Не ўсе чытачы ведаюць, што ён быў і зусім «мірны», калі, скажам, у кнізе «Доўгая дарога дадому» (2002) перасцярог чытача, што «твор вельмі інтымны». А інтымнасць сыходзіла з таго, што на пачатку ягонай кнігі – расказ пра сябе, юнага, і пра свае родныя мясціны. Прапаноўваем увазе чытачоў урывак з вышэйназванага ў добрым сэнсе краязнаўчага твора Васіля Быкава (друкуецца паводле аўтарскага правапісу).*

Родная мая мясьціна, мабыць, ня надта тыповая для раўніннай поўначы Беларусі – дужа зрыты рэльеф, пагоркі і лагчыны, раўкі, балацявіны і азёры. Азёраў дык нават зашмат – палявых і лясных, круглых, крывулястых, часам з голымі, а ў бальшыні з аброслымі трысьнягом берагамі. Ну і, вядома, лясы. Чырвоных бароў, праўда, засталося няшмат – бары высякалі, асабліва пасьля войнаў – на будоўлю, дровы, на продаж. Палі амаль паўсюль цесныя, лапікамі на пагорках, нізінах, часьцяком парэзаныя раўчукамі з алешнікам на схілах. На тых лапіках пад лесам, каля балотаў, па-над рэчкамі ці азёрамі рассыпаліся вёскі – невялікія, з крывымі вуліцамі, а то і зусім бяз вуліцаў, – з дарожкай ад хаты да хаты. Не хутары і ня вёскі, але так, мабыць, было зручней гаспадарыць, бо гаспадарка ахоплівала хату, хлявы, сьвіран, варыўню, гумно з токам, паветкай і пуняй. Нават невялікая вёска здалёку рабіла ўражаньне немалой забудоўкі. Цягам часу будынкаў усё менела – гарэла, бурылася, пераносілася да калгасных падворкаў – абораў ды канюшняў. Менела і людзей. Цяпер у маіх Бычках два дзясяткі самотных хатаў, палова зь якіх стаяць пустыя. У астатніх дажываюць свой век нямоглыя пэнсіянэры.

Наш падворак у вёсцы быў крайні, далей – поле і парослы алешнікам ды ляшчыньнікам роў. З тым ровам найперш зьвязанае маё маленства; у ім, асабліва ўлетку, было безьліч зманлівага і цікавага. Там зьліваліся дзьве ручаіны, утвараючы вадзяныя запруды на камянях, сцежку заўжды перакопвалі кратовыя норы, крыху далей, на схіле, зеўрала барсукова нара, а ўнізе, пад абрывам, бруіла з-пад камянёў крынічка. Усе даваенныя гады мы бралі зь яе ваду, якую, аднак, ня дужа лёгка было цягаць па крутых сьцежках, асабліва ўзімку. Але калодзежу на падворку мы ня мелі, а вада з крынічкі была дужа добрая – чыстая, заўжды сьцюдзёная і смачная, як казала маці. У калодзежах такой не бывае.

Над ровам удалечыні відаць былі цёмныя купкі ельніку, то – Гаі, Бліжнія і Дальнія, куды дзятва пачынала хадзіць зь Вялікадня, калі падсыхалі сьцежкі. Там мясьціўся зусім ужо інакшы сьвет – лясны, змрочны і таямнічы. У Піліпаўку чулася, як там выюць ваўкі, хаця адмысловае ваўчынае мейсца звалася Ваўкоўшчынай, яно было збоч і далей ад Гаёў, за іншым, яшчэ глыбейшым ровам. Увогуле равоў у нас хапала, усе зарослыя хмызьняком, з крутымі, галаваломнымі схіламі.

Пачаў сябе памятаць, можа, гадоў зь пяці. Першыя мае ўражаньні ад навакольнага сьвету, аднак, зьвязаныя з возерам.

...Трохі далей на балоцістым беразе ў хмызьняку жылі бабры, ладзілі свае хаткі. Часам можна было бачыць (асабліва ўвечары), як яны плывуць, што-небудзь цягнучы да свайго жытла.

Цікава зазначыць, што за час, які мінуўся з моманту маіх першых уражаньняў ад возера, шмат што – калі ня ўсё – у навакольлі зьмянілася. Ня стала прыазёрных вёсак, пабурыліся ў вайну ды так і не аднавіліся мястэчкі, паадыходзілі ў іншы сьвет людзі. А возера нікольні не зьмянілася. Усё той жа бераг, тыя ж яго абрысы, водмель і зарасьнікі трысьнягу побач. І нават тры старыя алешыны на беразе як расьлі на пачатку мінулага стагодзьдзя, так растуць і цяпер. І той бераг такі ж круты і лясісты, недаступны ні зімой, ні ўлетку. Сапраўды, неўміручае і нават нязьменнае мілае маё азярко, якое я буду любіць да скону дзён. Возера тое называлі Бяляхоўскім – па назову бліжняй, дарэчы, уцалелай за вайну вёскі. А гістарычны назоў ягоны – Гарадзень, мабыць, паводле памянёнага ўжо капішча. А крыху далей – зьвязанае з гэтым ручулкай возера Камароўскае.
... А возера таксама прыгожае, на астраўку менскія археолягі раскапалі стаянку неалітычнага чалавека. Так што мясьціны гэтыя былі даўно абжытыя, але ацалелыя праз тысячагодзьдзі...

# Сучасныя беларускія краязнаўцы

## Матэрыялы да слоўніка

**Ушакевіч** Станіслаў Алёйзавіч (н. 30.05.1931, в. Такарышкі Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл.), інжынер-будаўнік. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1958). Аўтар публікацый па гісторыі Іўеўшчыны і Лідчыны XX ст.

Тв.: Древесные растения садов и парков Белоруссии. Мн., 1986; Садово-парковое искусство Белоруссии. Мн., 1989; Старинные усадьбы Минщины. Мн., 2000.

**Федарук** Анатоль Тарасавіч (н. 01.04.1939, в. Хабы Брэсцкага р-на), доктар біялагічных навук (1990), прафесар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка. Скончыў Брэсцкі педінстытут (1961). Да краязнаўства далучыўся ў 1963 г. Даследуе гістарычныя сядзібы і старадаўнія паркі Беларусі. Удзельнік падрыхтоўкі кніг «Памяць».

**Фралоў** Аляксей Валер'евіч (н. 12.11.1974, г. Мінск), выкладчык Беларускай акадэміі музыкі, якую скончыў у 1997 г. Краязнаўствам займаецца з 1994 г. Настаўнікамі лічыць М. Ткачова, Т. Габрусь, З. Пазьняка, Г. Сокалава-Кубая, М. Ермаловіча, А. Грыцкевіча, А. Трусава, М. Чарняўскага. Ладзіць краязнаўчыя вандроўкі, творчыя сустрэчы (разам з А. Галічам), лекцыі са слайдфільмамі.



*А. Фралоў*



*А. Фурык*

**Фурык** Анатоль Сцяпанавіч (нар. 02.11.1934, в. Красіна Капыльскага р-на Мінскай вобл.). Скончыў БДУ (1962). Працаваў дырэктарам Чэрвеньскага краязнаўчага музея (да 1991). Краязнаўствам займаецца з 1961 г. Вывучае гісторыю Чэрвеньшчыны. Удзельнічаў у падрыхтоўцы кнігі «Памяць».

## Надзейны ратавальнік – пажарны апавяшчальнік

Вядома, што бяда заўсёды прыходзіць нечакана. Толькі ў жылых памяшканнях Мінска штогод адбываецца каля тысячы пажараў. Здараецца так, што першымі сведкамі пажару становяцца звычайныя праходжыя альбо пільныя суседзі. Чым раней выяўлена ўзгаранне, тым больш магчымасцей яго пагасіць. А гэта значыць – зберагчы жыллё, пазбегчы значных матэрыяльных страт, а самае галоўнае – магчымых ахвяр. Статыстыка сведчыць, што выкарыстанне аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў (АПА) зніжае сур'ёзнасць вынікаў пажараў на 80 %.

Так, 12.06.2006 г. у 6.20 на ЦАУ Мінскага гарадскога ўпраўлення МНС паступіла паведамленне аб пажары ў жылым доме па вул. Асіпенкі, 27-21. Падраздзяленні МНС, якія прыбылі па гэтым адрасе, устанавілі, што гаспадар кватэры Ю.П. Дубашынскі, будучы ў нецвярозым стане, заснуў, лежачы на канапе з непатушанай цыгарэтай. У выніку неасцярожнага абыходжання з агнём падчас курэння адбылося ўзгаранне бялізны і канапы. Дым распаўсюдзіўся па ўсім паверсе і трапіў у суседнюю кватэру № 23, дзе спрацаваў устаноўлены пажарны апавяшчальнік. Ад яго гучнага гукавога сігналу прачнулася гаспадыня кватэры і выклікала ратавальнікаў. Дзякуючы дапамозе, якая своечасова прыбыла, быў выратаваны гаспадар кватэры № 21.

Гэта яшчэ адзін з дзесяткаў прыкладаў, калі АПА эфектыўна спрацаваў і выратаваў чалавечыя жыцці.

*Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ,*
*інспектар ЦРАНС*



# «Шляхі нацыянальнага адраджэння: беларуская і чэшская мадэлі»

Факультэт гуманітарных даследаванняў сумесна з Кафедрай славістычных і ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Філасофскага факультэта Карлавага універсітэта пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Чэшскай Рэспублікі ладзяць 4–6 ліпеня 2006 г. у Празе Міжнародную навуковую канферэнцыю «Шляхі нацыянальнага адраджэння: беларуская і чэшская мадэлі».

Мэтай канферэнцыі з'яўляецца параўнанне і аналіз працэсаў нацыянальнага адраджэння ў Беларусі і Чэхіі ў XIX – пачатку XX стст., абмеркаванне заканамернасцяў і асаблівасцяў нацыянальных рухаў чэхаў і беларусаў, а таксама актывізацыя супрацоўніцтва паміж чэшскімі і беларускімі навукоўцамі. Акрамя беларускіх і чэшскіх даследчыкаў, у канферэнцыі прымуць удзел таксама спецыялісты з Літвы, Германіі і Польшчы.

Важным элементам канферэнцыі будзе параўнанне зместу чэшскай і беларускай супольнасцяў і звенняў, што іх звязвалі (напрыклад, значэнне мовы, гістарычнай свядомасці і г.д.).

На канферэнцыі будуць абмяркоўвацца наступныя пытанні:

1. Параўнанне і аналіз працэсаў нацыянальных рухаў у Беларусі і Чэхіі.
2. Роля суседніх народаў (палякі, немцы, рускія і інш.) у працэсах нацыянальна-культурнага Адраджэння чэхаў і беларусаў.
3. Прычыны актывізацыі нацыянальных працэсаў сярод чэхаў і беларусаў.
4. Пошук нацыянальнай ідэі і асаблівасці нацыянальнай ідэалогіі.
5. Працэс стварэння нацыянальнай дзяржаўнасці.
6. Беларуска-чэшскія культурныя і палітычныя сувязі.

Пасля правядзення канферэнцыі плануецца выданне зборніка матэрыялаў на чэшскай і рускай мовах.

***(Паводле газеты «Наша слова»)***

Выдатныя ўраджэнцы Беларусі

# Беларуская справа

## З нагоды 170-годдзя Яна Карловіча

*Выдатны славіст-мовазнаўца Ян Карловіч (1836–1903), ураджэнец паўночна-заходняга беларускага краю, выпускнік Маскоўскага універсітэта (1857) і Брусельскай кансерваторыі (1960), падчас жыцця ў маёнтках Падзітва і Вішнева (цяпер адпаведна Воранаўскі і Смаргонскі р-ны) на працягу амаль дзесяці гадоў навуковай працы (1871–1882) зрабіў велізарны ўклад ў беларускую фалькларыстыку, асабліва ў запіс мелодый беларускіх народных песень, казак і паданняў. Дзіўна, што гэты бясцэнны для сучаснага культурнага будаўніцтва матэрыял застаецца фактычна нявыкарыстаным і малавядомым. Патлумачыць гэта, відаць, можна толькі непавагай нашага музыказнаўства да сваіх нацыянальна-меладычных вытокаў, якімі захапляліся, захапляюцца і чэрпаюць поўнымі жменямі музыказнаўцы іншых, у першую чаргу, славянскіх краін – ад пачынальніка славянскай музычнай фалькларыстыкі чэха Людвіка Кубы, рускага кампазітара беларускага паходжання Міхаіла Глінкі, збіральнікаў і аранжыроўшчыкаў беларускіх народных песень Мікалая Рымскага-Корсакава і Аляксандра Грачанінава да дзесяткаў сучасных кампазітараў усіх суседніх краін.*



Непасрэдна збіраць і запісваць беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы Ян Карловіч пачаў яшчэ ў 1868 годзе, для чаго распрацаваў і выдаў ў 1871 годзе «Дапаможнік для збіральнікаў народных твораў». У 1889 і 1891 запісаў для М. Федароўскага больш за 500 мелодый беларускіх народных песень (больш за 300 апублікаваны ў працы Федароўскага «Люд беларускі»). Яшчэ напярэдадні ён выдаў працу «Найноўшыя даследаванні паданняў і іх зборы» (1883), а ў кнізе «Народныя паданні і казкі, сабраныя ў Літве» (1887–1888) змясціў у перакладзе на польскую мову больш за 80 беларускіх легенд, паданняў і казак, якія запісаў у Свянцянскім, Лідскім і Наваградскім паветах.

Асобную кнігу вучоны прысвяціў «сусветна знанаму убельскаму маэстра з-пад Менска» (Рыгор Шырма) Станіславу Манюшку – «Нарыс жыцця і творчасці Станіслава Манюшкі» (1884–1885). Карловіч першы раскрыў беларускія меладычныя асновы 12 «Хатніх спеўнікаў» кампазітара і яго песень на словы першага збіральніка і выдаўца 6 зборнікаў беларускіх народных песень Яна Чачота і «вечнага вандроўніка» Уладзіслава Сыракомлі. Сам таленавіты этнамузыколаг, Карловіч выявіў беларускую песенна-фальклорную стыхію ў операх Манюшкі «Рэкруцкі набор», «Спаборніцтва музыкаў», «Галька», «Чарадзейная вада» і «Сялянка».

Як заснавальнік (1887) і рэдактар (1888–1899) вядомага часопіса «Вісла», фалькларыст друкаваў у ім шматлікія беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. Ён цвёрда адстойваў права беларусаў на самастойнае нацыянальнае існаванне і развіццё, што напрыканцы XIX ст., калі пасля забойства рускага цара беларускім шляхціцам Грынявіцкім зноў забаранілі ўжываць назву Беларусь, было фактам незвычайнай грамадзянскай мужнасці і навуковай добрасумленнасці. Ён заклікаў вучоных даследаваць беларускую мову, фальклор, народны побыт, цесна супрацоўнічаў з беларускімі фалькларыстамі Уладзіславам Вярыгам, Міхалам Федароўскім, кансультаваў Амелію Біруту, перапісваўся з Адамам Гурыновічам, Мікалаем Янчуком, сябраваў з Францішкам Багушэвічам, выступаў у друку з рэцэнзіямі на працы Паўла Шэйна і Мітрафана Доўнар-Запольскага. У прадмове да зборніка Уладзіслава Вярыгі «Беларускія паданні» (1889) з захапленнем пісаў пра самабытнасць фальклору беларусаў.

Беларусазнаўчую працу бацькі на аснове дзіцячага выхавання і захаплення беларускай песеннай стыхіяй прадоўжыў народжаны ў Вішневе першы буйны сімфаніст у гісторыі польскай музыкі, таленавіты сын фалькларыста Мечыслаў Карловіч (1876–1909). Арганізатар (1902) і ў 1905–1906 гадах галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра пры Варшаўскім музычным таварыстве, аўтар сімфоніі «Адраджэнне», 7 сімфанічных паэм («Зваротныя хвалі», «Станіслаў і Ганна Асвецімы», «Эпізод на маскарадзе» і інш.), многіх камерна-інструментальных ансамбляў, у 1900 пачаў, па прыкладзе бацькі запісваць узоры беларускіх народных песень (найперш жніўных з-за іх музычных пераліваў) і музычнага фальклору, якія выкарыстаў у сімфанічным трыпціху «Адвечныя песні» (1904–1906) і ў выдатнай «Літоўскай рапсодыі» (1906). Найлепшы прыхільнік творчасці Мечыслава Карловіча Рыгор Шырма часта прыводзіў словы кампазітара, што ён стварыў рапсодыю «на аснове мелодый жніўных песень з Дзісеншчыны, якія гучалі з дзяцінства».

Ураджэнцы Беларусі, бацька – аўтар васьмітомнага «Слоўніка польскай мовы» і шасцітомнага «Слоўніка польскіх гаворак», і сын – аўтар першага буйнага сімфанічнага твора «Літоўская рапсодыя», Ян і Мечыслаў Карловічы залатымі літарамі навечна ўпісалі свае імёны ў скрыжалі беларускай гісторыі і культуры.

***Васіль ЛІЦЬВІНКА***

*Кароткі слоўнік*

# краязнаўча-прававой тэрміналогіі

*беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

П

**ПРЫСУД** (юрысдыкцыя) – правамоцтва суда разглядаць тую ці іншую справу ў залежнасці ад месца яе ўзнікнення, асоб, якія з'яўляліся бакамі ў працэсе, а таксама ад характару самой справы і пэўных яе абставін. Напрыклад, святары не аддаваліся на свецкі суд (акрамя Трыбунала ВКЛ), а свецкія – на духоўны. Павятовы суд разглядаў справы толькі датычныя павета, апеляцыі на пастановы земскіх і замкавых судоў – вялікакняжацкі суд (пасля 1581 г. Трыбунал ВКЛ).

**ПРЫСЯГА** – афіцыйнае ўрачыстае абяцанне прытрымлівацца законаў, захоўваць вернасць справе, быць праўдзівым. У сярэднявечча была пашырана ў палітычнай і юрыдычнай дзейнасці. Прысягалі пры каранацыі вялікія князі ВКЛ (яны маглі прыносіць прысягу асобна феадалам і сваёй дзяржаве). У змесце прысягі выяўлялася абмежаванне ўлады князя, які павінен быў аберагаць інтарэсы буйных феадалаў, палітычныя інстытуты і прававыя нормы. З 2-й пал. XVI ст. гэтым абавязацельствам надавалася асаблівае значэнне, паколькі яны мелі дачыненне і да праблемы вяртання ВКЛ зямель, што адышлі да Польшчы паводле Люблінскай уніі 1569 г. Вялікаму князю ВКЛ прыносілі прысягу сенатары і сеймавыя паслы на сейме, службоўцы (маршалкі, канцлеры, ваяводы і інш.).

Вялікая ўвага надавалася прысязе ў судаводстве. Яе прыносілі суддзі, падсудкі, судовыя пісары, возныя. Хоць у судзе прысяга грамадзян мела класавы характар, была нераўнапраўнай: напрыклад, каб даказаць сваю невінаватасць у крадзяжы, шляхціцу было даволі сваёй прысягі і яшчэ двух шляхціцаў, а вось простаму чалавеку – прысягі шасці чалавек, з якіх два павінны былі быць шляхціцамі. Прысяга заўсёды падмацоўвалася Бібліяй.

**ПРЭЛАТ** (позналац. пераважны) – у Каталіцкай і Англіканскай цэрквах званне вышэйшых духоўных саноўнікаў – кардыналаў, архібіскупаў, прыёраў (настаяцеляў манастыроў) і інш. Упершыню ўпомнены ў звароце караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ Жыгімонта III Вазы да падданых ВКЛ, у якім ён урачыста абяцаў захоўваць законы дзяржавы і не прызнаваць нікога вінаватым без суда, чым падкрэсліў прызнанне самастойнасці ВКЛ.

*Калекцыянерам, і не толькі*

## Птушцы гэтага году –

кнігаўцы – выдавецкі цэнтр «Марка» прысвяціў **марку № 635**.

Зімуе яна ў Францыі, да нас вяртаецца пры канцы лютага. Афарбоўкаю самка падобная да самца, абое аднолькава клапоцяцца аб нашчадках. Гняздо можа ладзіць на зямлі, на лузе альбо ў полі. У поўнай кладцы заўсёды чатыры яйкі. На гняздоўі крычаць «Чые вы!» Міграцыя да месца зімоўкі пачынаецца ўжо пры канцы мая і доўжыцца да кастрычніка. У Беларусі звычайна гняздуецца прыкладна 100 тысячаў параў. Колькасць кнігавак змяншаецца амаль ва ўсіх краінах Еўропы.

Мастак маркі Віктар Мікіта, памер – 37 x 26 мм, наклад – 91 тысяча асобнікаў. Друкаваліся малымі аркушамі па 7 марак і 1 купоне. У дзень выхаду на Мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень» (іх намаляваў Аляксандр Міцянін).














## Дзіцячыя малюнкі

змешчаныя на **марках № 637** і **№ 638** – «Пінгвіны» 12-гадовай Ліны Філіповіч і «Пегас» 16-гадовай Дашы Бунеевай. Мініяцюры выдадзеныя па выніках конкурсу «Свет без межаў вачыма моладзі», маюць лагатып «EUROPA». На канвертах «Першы дзень» змешчаныя малюнкі Рэнаты Лазарчык (13 гадоў) і Яні Несцяровіч (14 гадоў).

Мастацкае аздабленне марак, КПД і спецштэмпель Івана Лукіна, памеры – 26 x 36 мм і 37 x 26 мм адпаведна, наклад – па 80 тысячаў асобнікаў.

## Юбілею класіка

прысвечаная **марка № 639**. 85-годдзе Івана Шамякіна «Белпошта» адзначыла паштовай мініяцюрай, на якой выяву пісьменніка абрамляюць атлант і карыятыда. Яны ж – на канверце «Першы дзень». На марцы прыменены элементы абароны.

Мастак мініяцюры Віктар Мікіта, памер – 40 x 28 мм, наклад – 70 тысячаў асобнікаў.

У дзень выхаду на Мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне на КПД.

***Вялікі дзякуй за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялаў рубрыкі супрацоўнікам выдавецкага цэнтра «Марка» РУП «Белпошта».***





*Школьнае краязнаўства*

# Ад гуртка да музея, ад музея – да малавывучаных старонак гісторыі

## Накірункі дзейнасці археолага-краязнаўчага гуртка па выхаванні нацыянальнай самасвядомасці

***Краязнаўчая дзейнасць настаўніка гісторыі – не толькі падмурак для даследаванняў навукоўцаў-гісторыкаў. Галоўнае значэнне яе – выхаванне ў вучняў любові да роднага краю, нацыянальнай самасвядомасці. Аб гэтым пераканаўча сведчыць наша дзейнасць.***

Адразу пасля заканчэння інстытута я быў накіраваны працаваць настаўнікам гісторыі ў Мёрскі раён. З першых дзён працы на базе Мёрскага Дома піянераў быў створаны археолага-краязнаўчы гурток. Вучні самі прыдумалі назву «Арганаўты мінулага», а з часам – дэвіз, герб, пячатку, гімн. Вывучаць гісторыю роднага краю, адкрываць невядомыя старонкі мінулага Мёршчыны, зберагчы помнікі даўніны для нашчадкаў, дапамагчы вучоным у вывучэнні гісторыі і археалогіі рэгіёна – вось асноўныя мэты нашай дзейнасці. Заняткі гуртка праходзяць у двух формах: тэарэтычная і практычная. Падчас вывучэння тэорыі вучні знаёмяцца з асновамі археалогіі, этнаграфіі, нумізматыкі, геральдыкі, сфрагістыкі, тапанімікі, генеалогіі і іншых гістарычных навук. Вучацца вызначаць і класіфікаваць гістарычныя рэчы, археалагічныя і этнаграфічныя знаходкі. Практычныя заняткі праходзяць непасрэдна на мясцовасці – гэта археалагічныя разведкі і раскопкі, экскурсіі, краязнаўчыя вандроўкі. Верныя свайму дэвізу «Шукаць і знаходзіць», сябры гуртка знайшлі шмат новых археалагічных помнікаў не толькі ў сваім раёне, але і па ўсёй Беларусі. Так, старажытныя паселішчы эпохі неаліту знойдзены непадалёк ад Мёраў, каля вёсак Лінкаўшчына, Снегі, Гір'яты, Дубашынскі Двор ды іншых Мёрскага, каля Шэвіна Віцебскага, Грумбіненты – Мядзельскага, Лясная – Баранавіцкага раёнаў і іншыя.

Гуртоўцы не толькі адшукалі ў 1987 г., але і выратавалі для навуковага даследавання адзіны ў краіне, на той час, грунтовы могільнік славянаў і балтаў X–XIII стст. Там былі знойдзены адзіныя ў свеце, паводле вызначэння прафесара В.Н. Рабцэвіча, знаходкі – фальшывыя арабскія бракцеаты X ст. Нашы гуртоўцы дапамагалі археолагу Гродзенскага універсітэта Г.М. Семянчуку падчас раскопак гэтага помніка. Цікавыя курганныя могільнікі былі адкрыты каля вёсак Снегі, Чурылава Мёрскага, каля возера Балдук Мядзельскага раёнаў. Хоць наш рэгіён з XIX ст. даследуецца археолагамі, намі адкрыты шэраг гарадзішчаў ранняга жалезнага веку: непадалёк ад вёсак Гарані, Касабукі, Ражні ды іншых. У апошнія гады адкрыты невядомы навукоўцам сярэдневечны рытуальны абрад у былых вёсках Хралы і Жэймяны Браслаўскага раёна. Цягам многіх гадоў «Арганаўты мінулага» дапамагалі археолагам НАН Беларусі праводзіць раскопкі гарадзішчаў каля вёсак Пруднікі, Маскавічы, Рацюнкі, курганных могільнікаў каля вёсак Снегі, Лясная, Чурылава, Вята, Махіроўка ды іншых.

Археалагічная даследаванні гуртка – не адзіны накірунак дзейнасці школьнікаў. Шмат новых звестак знойдзена падчас краязнаўчых экспедыцый для ўдакладнення біяграфій нашых славутых землякоў. Так, складзены радавод і знойдзены унікальныя здымкі Чэслава Сіповіча, заснавальніка першага ў свеце музея і бібліятэкі Ф. Скарыны ў Лондане. Упершыню даследавана дзейнасць такіх дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху, як Браніслаў Туронак, Кузьма Крук, Язэп Малецкі ды іншыя.

Адным з галоўных вынікаў дзейнасці гуртка стала стварэнне ў 1986 г. гістарычнага музея на базе СШ № 3 г. Мёры, які ў 1996 г. атрымаў званне народнага. Цяпер яго 12 аддзелаў і запасныя фонды налічваюць 13 тысяч экспанатаў, большасць якіх – унікальныя для нашай краіны. Напрыклад, рымскі дынарый Максіміяна 280 г., пражскі грош 1386 г., манеты ВКЛ XV–XVII, скарбы манет XVII–XX стст. Найбольш багаты – археалагічны раздзел, у якім прадстаўлены знойдзеныя «арганаўтамі» шматлікія прылады працы і мастацтва старажытных людзей, у тым ліку адзіная выява сабакі II тысячагоддзя да н.э., каменны серп III тысячагоддзя да н.э. У раздзеле «Старая кніга» сабраныя рукапісныя і старадрукаваныя кнігі XVII–XIX стст. на польскай, нямецкай, грэчаскай, стараславянскай, французскай і іншых мовах, унікальныя беларускія выданні пачатку XX ст. Іншыя раздзелы прадстаўлены дакументамі па гісторыі Мёршчыны XVIII–XX стст., медалямі, пячаткамі, здымкамі і г.д.

Унікальныя экспанаты распавядаюць пра гісторыю старажытных Кітая і Грэцыі.

Гуртоўцы дапамаглі стварэнню Мёрскага, Браслаўскага, Глыбоцкага раённых музеяў, шматлікім школьным музеям раёна і вобласці. «Арганаўты мінулага» былі ініцыятарамі правядзення ў 1996 годзе міжнароднай навуковай канферэнцыі «Дзісенскія чытанні», у якой удзельнічалі гісторыкі-навукоўцы Гродзенскага універсітэта, навукоўцы з Польшчы, Расіі. Шматлікія матэрыялы, сабраныя сябрамі гуртка, змешчаны ў кнізе «Памяць» Мёрскага раёна.

Музей і «Арганаўты мінулага» арганізуюць і праводзяць мерапрыемствы раённага і абласнога ўзроўню (напрыклад, свята 1000-годдзя мястэчка Лявонпаль, а падчас 350-годдзя Мёраў – абласны фестываль нацыянальных культур).

Асабліва плённая пошукавая дзейнасць гуртка была ў апошнія гады. Хоць мы больш за 25 гадоў займаемся пошукам новых помнікаў археалогіі ў нашым краі, цягам апошніх чатырох гадоў чакалі новыя адкрыцці. Поспеху садзейнічала назапашванне тапанімічнай інфармацыі, дакументальнага і картаграфічнага матэрыялу, запісы ўспамінаў старажыхароў. Пошук стаў больш комлексны і ахоплівае не толькі археалогію, але і іншыя накірункі краязнаўства. Асабліва паспяховымі былі краязнаўчыя вандроўкі Мёры–Пагост–Забор'е, Мёры–Дзісна–Язна, Мёры–Навалака, Мёры–Казакова. Так, падчас краязнаўчай вандроўкі ў Забор'е асноўнай мэтай было ўдакладненне месца хаты, у якой прайшлі дзіцячыя гады Вацлава Ластоўскага, вывучэнне звестак Язэпа Драздовіча пра старажытнасці Пагоста. Дзякуючы вывучэнню старажытных планаў і картаў былі лакалізаваныя не толькі сядзіба Ластоўскага, але і месца, дзе была школа, у якой ён вучыўся. Вывучэнне легенды пра царкву, якая праваліася, дазволілі адкрыць гарадзішча днепра-дзвінскай культуры I–IV стст. каля вёскі Забор'е. Меркаванні Я. Драздовіча аб існаванні каля Старога Пагоста гарадзішча Гараватка не пацвердзілася. Падчас гэтай жа вандроўкі мы лакалізавалі месца бою атрада брыгады «Кастрычнік» з нямецкімі захопнікамі. Падчас сустрэчы са старажыхарамі вёскі Стафанова атрымалі ў падарунак здымкі і дакументы Першай сусветнай вайны, а таксама матэрыялы пра нашых землякоў, удзельнікаў баёў з фашыстамі пад Монта-Касіна, У. Міклушонка і В. Лагуна. Апісанне маршрута вандроўкі на рэспубліканскім конкурсе атрымала найвышэйшую ўзнагароду.

Краязнаўчая вандроўка ў Язна была найбольш працяглай з усіх па адлегласці – амаль 80 кіламетраў, на самы ўскраек Мёрскага раёна. Мэта – праверыць успаміны мастака Віктара Жаўняровіча, які жыве ў Францыі, пра старажытнасці Язеншчыны. Цягам аднаго дня гуртоўцы правялі даследаванне горада Дзісны. Вывучаліся планіроўка старажытнага паселішча, месцазнаходжанне Верхняга і Ніжняга замкаў. Сабраны багаты пад'ёмны матэрыял: кераміка, кафля, манеты, якія дазволілі зазірнуць у мінулае горада. У Язне, дзякуючы запісаным успамінам А. Юршэвіча, А. Губерта, К. Юршэвіч, І. Шчарбіцкай, былі знойдзены гарадзішча каля вёскі Гараўцы, курганная група каля былой вёскі Бор-Палятна, прыродны помнік камень-валун (легенды звязваюць яго гісторыю са знакамітымі асобамі – Усяславам Чарадзеем, С. Баторыем, Кацярынай II, Напалеонам). Вывучэнне помніка дазволіла нам зрабіць выснову, што гэта месца ахвярапрынашэння нашых продкаў-язычнікаў.

А там, дзе, па ўспамінах Жаўняровіча, былі акопы Першай сусветнай вайны і дзе салдаты знайшлі скарбы з упрыгажэннямі, удалося высветліць, што тут у X–XIII стст. знаходзілася старажытнае паселішча, а ў XV–XVII стст. умацаваная сядзіба ўладальнікаў Язна – Корсакаў. Мы знайшлі шмат аскепкаў керамікі і кафлі X–XVIII стст. На беразе возера Малое Язна сябры гуртка знайшлі фрагмент каменнай клінападобнай сякеры I тысячагоддзя да н.э., кераміку днепра-дзвінскай культуры, што пераканаўча сведчыць пра існаванне тут неўмацаванага паселішча гэтай культуры. Дзякуючы звесткам і старажытным картам, нам пашчасціла адшукаць «святую крыніцу» з лекавай вадою. На старых язненскіх могілках адшукалі магілу чырвонаармейцаў 1920 г., дзе выбіты польскамоўны надпіс, што тут пахаваны 33 воіны. Знойдзены на могілках і каменны мальтыйскі крыж, які можна аднесці да ранніх часоў хрысціянства ў нашым краі. Даследаванне старажытных надмагілляў Корсакаў садзейнічала аднаўленню радаводу гэтага славутага роду, пачынаючы з XVI ст. Захаваліся ў Язне і прыступкі царквы, на якіх у 1926 г. выступалі дзеячы Грамады П. Мятла, С. Рак-Міхайлоўскі, Б. Тарашкевіч.

Меней знаходак было падчас вандроўкі ў Навалаку, у маляўнічыя мясціны на беразе возера Важа. І гэта не дзіўна – па гэтым маршруце мы ўжо правялі 5 пошукаў. Раней тут былі адкрыты паселішчы эпохі неаліту каля вёскі Лінкаўшчына, бронзы – каля Ківернікаў і г.д. Але і гэтым разам пошук быў паспяховым. Самае цікавае – адкрыццё гарадзішча позняга этапу днепра-дзвінскай культуры I–IV стст. Намі былі лакалізаваныя месцы былых вёсак Балда і Важа. На іх месцы знайшлі кераміку, рэшткі прыладаў працы, манеты. Вывучэнне руінаў былой сядзібы Клётаў у Навалацы садзейнічала складанню радаводу гэтага славутага роду.

Багатай на знаходкі і адкрыцці была апошняя вандроўка ў Казакова, праведзеная летась. Падчас яе знайшлі два гарадзішчы: жалезнага веку «Чорная гара» днепра-дзвінскай культуры яе ранняга этапу VII–V ст. да н.э., а за кіламетр ад першага – гарадзішча «Цвінтар» позняга этапу штрыхаванай керамікі I–IV ст. Мы выканалі і галоўную мэту вандроўкі – адшукалі рэшткі былой сядзібы аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры XIX ст. В. Савіча-Заблоцкага. Ужо не існуе вёскі Панчаны, у якой сядзіба знаходзілася, таму пошук быў працяглы. Дзе прайшлі дзіцячыя гады будучага пісьменніка і публіцыста, засталіся толькі скляпенні. Калі шукалі сядзібу, быў знойдзены невядомы ў літаратуры камень-валун па дарозе на в. Целяшы. Падчас абследавання дна возера Багачоўскага унікальная была знаходка старажытнага чоўна. А на месцы былой сядзібы Багачовых знойдзена каменная ступа вагой блізу 250 кг; аналагаў падобных знаходак, паводле вызначэння вучоных НАН Беларусі, у нашай краіне няма.

Апошнім часам гуртоўцы шмат увагі надалі вывучэнню генеалогіі старажытных родаў нашага краю. Дзякуючы матэрыялам гістарычнага музея і сувязям з архівамі Літвы і Польшчы, намі складзены радаводы Лапацінскіх і Клётаў, пачынаючы з XII ст., Замбжыцкіх, Пранеўскіх, Мірскіх – з XVI ст. Нядаўна «Арганаўты» даследавалі і малавядомыя старонкі гісторыі архітэктурных помнікаў Мёршчыны. Упершыню намі складзена гісторыя касцёла ў Мёрах, капліцы ў Ідолце, сядзібаў Каменполле, Мілашова, Крычава, Павянужка і г.д.

За мінулы год сябры гуртка знайшлі для свайго музея больш за 1,5 тысячы экспанатаў. Сярод іх адзінкавыя на Беларусі: кітайская манета фынь імператара Цынь-Шыхуандзі III ст. да н.э., каменная сякера з арнаментам II тысячагоддзя да н.э., мікраліты эпохі мезаліту VIII–VII тысячагоддзя да н.э. з сердаліку, яшмы, абсідыяну, горнага крышталю з Усходняй Сібіры, каменны неалітычны серп, «Каляндар бенедыктынянскі» 1768 года на польскай мове, выдадзены ў Вільні, скарбы манет баратынак і дынарыяў XVI–XVII стст., абразы і крыжы XIII–XIX стст., дакументы XIX–XX стст., у тым ліку Дзісенскага манастыра, якія лічыліся страчанымі.



*В. Ермалёнак (другі справа) з «арганаўтамі» ў Навалацы*

***Апошнім часам гуртоўцы праводзяць даследаванне, прысвечанае 60-годдзю Перамогі, па яшчэ не вывучанай тэме «Забытыя жаўнеры Перамогі» – пра нашых землякоў, якія змагаліся з фашыстамі на захадзе і загінулі ў Егіпце, Італіі, Англіі, Францыі, Даніі ды іншых краінах.***

***Пошук юных краязнаўцаў працягваецца; спадзяемся, што наперадзе нас чакаюць новыя адкрыцці.***

*Вітаўт ЕРМАЛЁНАК,*
*настаўнік гісторыі СШ № 3 г. Мёры,*
*кіраўнік гуртка «Арганаўты мінулага»*

## З цікаўнасцю да краязнаўчай работы

**_У верасні 2003 года ў Навагрудку на базе СШ № 6 была акдрыта гімназія № 1. Сярод мэт, якія дэкларуе навучальная ўстанова, ёсць і такая: «Выхоўваць нацыянальна свядомую асобу на аснове агульначалавечых каштоўнасцей». Вырашэнне гэтай задачы адбываецца і ў рамках шматграннай краязнаўчай працы._**

– Па-першае, – расказвае намеснік дырэктара гімназіі па навукова-метадычнай рабоце Святлана Іванаўна Аляхновіч, – мы стварылі музейны пакой. Ён складаецца з трох экспазіцыйных частак. Першая змяшчае этнаграфічныя зборы. У другой – матэрыялы пра землякоў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Трэцяя частка прысвечана гісторыі гімназіі. Ёсць і матэрыялы на іншыя тэмы.

Разам уважліва аглядаем невялічкі музейны пакой. Тут, на некалькіх квадратных метрах, умясцілася досыць шмат цікавых матэрыялаў. Сярод іх – агітацыйны плакат часоў Вялікай Айчыннай вайны, газета «Праўда» (з 1942 года), невялікая калекцыя манет і папяровых грашовых знакаў.

Першы дырэктар гімназіі Таццяна Георгіеўна Мароз перадала ў музейны пакой памяткі пра вайну з сямейнага архіва. Сярод іх – пахавальны ліст, баявыя ўзнагароды. Шмат цікавага, напрыклад, у кнізе «Апісанне цэркваў і прыходаў Мінскай епархіі (Мн., 1879), якую перадаў у музейны пакой Канстанцін Міхайлавіч Вайтовіч. Ён працуе ў аддзеле адукацыі Навагрудскага райвыканкама.

Ёсць у гімназіі навуковае таварыства вучняў. Складаецца яно з наступных секцый: гісторыі і краязнаўства, філалогіі, сацыялогіі, інфарматыкі, эстэтыкі.

– Безумоўна, істотная частка работы навуковага таварыства – гэта гісторыка-краязнаўчыя пошукі гімназістаў і настаўнікаў, – расказвае дырэктар Наталля Вайтовіч. – І як ацэнка – узнагароды, атрыманыя нашымі выхаванцамі. Пералічу толькі некаторыя дасягненні: атрыманы дыпломы I і II ступеняў за ўдзел у рэспубліканскім конкурсе «Легенды майго дома»; другое месца ў рэспубліканскім маладзёжным конкурсе гістарычных ведаў, прысвечаным 60-годдзю перамогі ў Сталінградскай і Курскай бітвах; першае месца ў рэспубліканскім конкурсе «Нам засталася спадчына...».

У маі ў Дзятлаве звычайна праходзіць рэгіянальная навукова-практычная канферэнцыя навучэнцаў «Свет маіх адкрыццяў». Вось і сёлета ў Дзятлава запрасілі навагрудскіх гімназістаў. Юнакі і дзяўчаты падрыхтавалі 13 дакладаў, 4 з якіх – па секцыі гісторыі. Тэмы распрацаваны на аснове мясцовага матэрыялу. Вось назвы і аўтары даследаванняў: «Маё генеалагічнае дрэва» (Ірына Барыс), «Фальклорна-этнаграфічны праект «Беларускі мацярык» (Кацярына Бадак), «Польская культура на Навагрудчыне» (Гражына Сіткоўская), «Яўрэйская культура на Навагрудчыне ў 20–30-я гады XX стагоддзя» (Вікторыя Мягкова).

Пашырэнню гісторыка-краязнаўчага досведу гімназістаў спрыяе яшчэ адзін праект навагрудчан. Рэалізоўваюць яго вучні сумесна з аднагодкамі з Санкт-Пецярбурга. Вось ужо тры гады сябруюць беларускія гімназісты з вучнямі гімназіі № 248 горада на Няве, разам выпускаюць электронны часопіс «Перемена времён».

– Канечне ж, мы імкнемся расказаць пра Навагрудак, пра слыннага паэта Адама Міцкевіча, – гаворыць Святлана Аляхновіч. – У гэтым клопаце нам істотна дапамагае сяброўства з Домам-музеем Адама Міцкевіча. Менавіта наша навагрудская скарбніца памяці пра слыннага паэта сталася адным са звенняў у развіцці нашага сяброўства з расіянамі. Міцкевіч, Пушкін, іх творчыя, жыццёвыя стасункі, велічыня іх паэтычнай геніяльнасці – вось тое перасячэнне, дзе сыйшліся інтарэсы юных гісторыкаў, краязнаўцаў.

На Навагрудчыне літаральна ва ўсіх школах ёсць музеі альбо музейныя пакоі. Вучні, настаўнікі збіраюць памяткі даўніны, даследуюць гісторыю роднага краю. Відавочна, ужо зараз наспеў час для арганізацыі ў Навагрудку школьнай краязнаўчай канферэнцыі. Спачатку яе можна было б праводзіць 1 раз на 2 гады, выдаючы па выніках канферэнцыі зборнік дакладаў, рэфератаў, выступленняў. Ды і чаму б не наладзіць, напрыклад, выпуск электроннай краязнаўчай газеты? Усе магчымасці на тое ў гімназіі № 1 горада Навагрудка ёсць.

**_Алесь КАРЛЮКЕВІЧ_**

***

_**Незвычайная назва вуліцы ў незнаёмым мястэчку ці горадзе, дзіўны адрас на паштоўцы ці месца пражывання сваякоў (тыя назвы ўжо даўно прыцягваюць увагу, і часам так карціць дазнацца пра гісторыю іх паходжання) – гэтыя ўражанні знаёмыя многім з нас. Але ў вечнай спешцы і клопатах мы ўсё ж такі забываемся спытаць пра назву, што так зацікавіла, і, заклапочаныя няскончанымі справамі, не ўзгадваем пра адрас пасля адпраўкі канверта. А калі ўсё ж паспрабаваць правесці невялікае даследванне? Тут, як кажуць, усё ў нашых руках, і цікавыя вынікі, магчыма, не прымусяць доўга чакаць.**_

# Спадчына ў назвах нашых вуліц: набытак і страты

У невялікім пасёлку Бялынічы, што ўтульна размясціўся на трасе Мінск–Магілёў, амаль не засталося вуліц, якія ў сваіх назвах адлюстроўвалі б больш-менш даўнюю гісторыю гэтага мястэчка на ўсходніх ускраінах Магілёўшчыны. На жаль, ужо нічога не нагадвае пра грандыёзны будынак былога касцёла кармелітаў, гістарычны і культурны помнік XVII стагоддзя, які месціўся ў самым цэнтры Бялыніч і быў канчаткова разбураны ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Дарэчы, ёсць меркаванне, што яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя ў ім быў арган, і дакладна вядома, што ў той час пры манастыры працавала музычная школа, дзе выкладаў «прафесар органув Грун з Прагі чэскай». Велічная выява касцёла цяпер упрыгожвае толькі што вокладку выдатнага альбома «Старажытная Беларусь у малюнках Напалеона Орды».

Сямідзесяцігадовая гісторыя савецкай дзяржавы, як і ў любым іншым мястэчку Беларусі, прадстаўлена ў Бялынічах поўным наборам вуліц (Ленінская, Энгельса, Кірава, Калініна, Чапаева, Горкага). Ёсць вуліцы імя Герояў Савецкага Саюза, якія ўдзельнічалі ў Вялікай Айчыннай вайне, – К. Заслонава, Б. Хігрына, Л. Лорчанкі, С. Церашкевіча; ваеннакамандуючага Якубоўскага, партызана Грышына, лётчыка Чкалава, першага касманаўта Гагарына, а таксама «40 лет Победы», «50 лет Октября», «60 лет Октября», «70 лет Октября».

Назвы апошніх вуліц у нашым артыкуле наўмысна не перакладаюцца на беларускую мову, зыходзячы з павагі да савецкіх традыцый.

Далейшы спіс бялыніцкіх вуліц не вызначаецца арыгінальнасцю: Первомайская, Красноармейская, Оборонная, Пионерская, Крестьянская, Коммунистическая. Хоць ёсць у гэтым спісе і цікавыя выключэнні.. У гарадскіх тэлефонных даведніках 1990-х і 2000-х гадоў сустракаецца назва «переулок Ченовский». Як высветлілася, гэта не вытворнае ад нейкага прозвішча ці назвы, а трансфармаваная з 70–80-х гадоў назва завулка «Чоновский», які яшчэ раней быў «ЧООНовским», г.зн. імя «Чрезвычайного Отряда Особого Назначения», карнага спецпадраздзялення, якое займалася барацьбой з «ворагамі» савецкай улады. Напэўна, калі паходжанне назвы згубілася ў ходзе часу, вымаўленне слова «Чоновский» стала нагадваць мясцовы дыялект, таму і з'явілася патрэба русіфікаваць гэту назву як «ЧенОвский».

Метамарфоза, падобная да гэтай, не адзіная на Магілёўшчыне (няхай выбачае чытач за гэтае невялічкае адступленне, але ніжэйпрыведзены прыклад дапаможа далейшаму аналізу). Недзе на пачатку 2000-х пры ўездзе ў мікрараён «Юбілейны» г. Магілёва вадзіцель аднаго з маршрутаў зычна аб'яўляў «Улица Машаковского» (дарэчы, раён гэты ў народзе мае назву «Машакоўка», калі-нікалі ўжываецца нават «Мышакоўка»). Але на шыльдах з нумарамі дамоў дакладна напісана: «Машэкаўская». Гэта значыць, вуліца імя Машэкі, таго самага міфічнага персанажа, у гонар якога, па легендзе, старадаўняе паселішча на гэтым месцы было названа «Магіла льва». І які ў лепшых традыцыях часу ледзь не зрабіўся адмысловым «генералом МашакОвским».

Зараз паспрабуем усё ж такі адыйсці ад узнёслай ваенна-рэвалюцыйнай тэматыкі і вярнуцца на зямлю, у нашу правінцыю. Зразумела, што ў маленькім мястэчку павінны быць і іншыя вуліцы. У назвах некаторых з іх у Бялынічах ушанавана памяць загінулых ці памерлых землякоў: ёсць вуліцы імя Целешава, міліцыянера, які загінуў пры затрыманні злачынца; Дайнекі, загінулага на паляванні пры сутычцы з браканьерамі; Мікалуцкага, кіраўніка Дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці ў сярэдзіне 1990-х, ён загінуў у выніку тэракту; Людвіга Сяліцкага, ураджэнца вёскі Трылесін, аднаго з памочнікаў Канстанціна Заслонава; Іосіфа Свідзінскага, адзінага ўраджэнца Бялыніцкага раёна – Героя Савецкага Саюза.

Класікі літаратуры прадстаўлены ў назвах местачковых вуліц у «строга выверанай прапорцыі»: расейцы – Пушкін, Лермантаў, Някрасаў, Маякоўскі, Астроўскі; беларусы – Янка Купала, Якуб Колас. Якое дачыненне меў да Бялыніч Мічурын – невядома, аднак адна з галоўных вуліц названа ў яго гонар. Гэта, напэўна, таксама перажытак нядаўняй мінулай эпохі – у савецкія часы выдатны селекцыянер чамусьці быў вельмі папулярнай фігурай, і ў многіх населеных пунктах засталіся вуліцы яго імя.

Аднак, як бы адзначаючы супярэчлівасць часу, адна з новых вуліц носіць імя Дзяніса Давыдава, які ў вайну 1812 года вандраваў са сваім партызанскім атрадам па лясах Бялынічччыны, а па некаторых звестках нават вызваліў Бялынічы ад непрыяцеля. У чым жа тут супярэчлівасць? На думку аўтара, у тым, што Давыдаў ваяваў на тым жа баку, што і сумнавядомы для беларусаў Суворaў, і абараняў палітыку, якая, магчыма, ніяк не ішла на карысць тагачасных мясцовых жыхароў Бялынічччыны.

Адгалоскі новага часу ўвасобіліся ў назвах вуліц вялікіх гістарычных асоб беларускай зямлі: на пачатку 1990-х з'явіліся вуліцы імя Ефрасінні Полацкай, якая шануецца як святая і лічыцца нябеснай ахоўніцай Беларусі; першадрукара Францыска Скарыны; паэтаў Максіма Багдановіча і Пімена Панчанкі; выдатных дзеячаў ВКЛ – Льва Сапегі (род якога доўгія часы з'яўляўся ўладальнікам Бялыніч) і Канстанціна Астрожскага з роду князёў Друцкіх (з яго прозвішчам ўжо таксама пачынаюць адбывацца недарэчнасці – у некаторых спісах вуліц ёсць варыянт «Астражэўскага»), а таксама Казіміра Чарноўскага, ураджэнца Бялыніцкай зямлі, першага вынаходніка падводнай лодкі (ён доўгія гады правёў у Петрапаўлаўскай крэпасці, дзе і распрацаваў ідэю падводнага судна).

Адна з адносна новых вуліц носіць імя знакамітага мастака Вітольда Каэтанавіча Бялыніцкага-Бірулі. Музей яго імя існуе ў Бялынічах з 1970 года.

На тэрыторыі Беларусі да пачатку XX стагоддзя была распаўсюджана традыцыя называць вуліцы суадносна з геаграфічным месцазнаходжаннем, а таксама з найбольш вялікім і значным аб'ектам ці будынкам, каля якога праходзіла вуліца. У Бялынічах гэта традыцыя захавалася: вуліца Мокраўская пралягае ў напрамку на Мокравічы, Круглянская – на Круглае, «Минское шоссе» – у мінскім напрамку. 1-я і 2-я Восточные знаходзяцца на ўсходзе мястэчка, Западная – адпаведна, на захадзе, завулак Северный – з паўночнага боку пасёлка. Луговая, Задруцкая, Набережная, Заречная знаходзяцца ў раёне ракі Друць. Лясная праходзіць уздоўж лесу на ўскрайку Бялыніч.

Ёсць яшчэ шэраг рамантычных назваў накшталт Цветочная, Солнечная, Просторная, Светлая, Молодёжная, Привольная, а таксама Белорусская і Славянская. Але вуліцы, у назвах якіх захаваліся сапраўдныя гістарычныя асаблівасці мястэчка, гэта – Паштовая і Садовая.

Першая – невялічкая вуліца, якая, цалкам адпавядаючы сваёй назве, у ранейшыя часы праходзіла ад былога будынку старой пошты (пабудаваны ў 10-х гадах XX стагоддзя, разбураны ў 90-х), а цяпер ад будынку сучаснага паштамту (пабудаваны ў канцы 70-х) да другой вуліцы, якая апынулася прадметам нашай размовы, – Садовай. Гэта вуліца мае цікавую і, можа, з нейкага боку нечаканую гісторыю. Аб паходжанні яе назвы хацелася б сказаць крыху больш.



**Цэнтр Бялынічаў, 1 мая 1925 года**

_Фота зроблена з касцёла ў накірунку сучаснай вуліцы Савецкай_

**_Юрась НЕСЦЯРЭНКА,_**
**_г.п. Бялынічы_**

(Заканчэнне будзе)

# Проста сціплы чалавек

***Уладзімір Весялуха пісаць вершы пачаў сямікласнікам. Падчас працы дырэктарам адной са школ на Слонімшчыне адмовіўся ад выдання паэтычнага зборніка. Маўляў, самых значных сваіх радкоў яшчэ не напісаў. А пасля такой магчымасці больш не надаралася. Ды і вершаў пачаў пісаць менш – бракавала часу. Апошнія гады свайго жыцця сумленна працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Вілейскай гімназіі № 1 «Логас». Уладзімір Весялуха – укладальнік паэтычнага вучнёўскага зборніка «Усё пачынаецца са школы». Вершы паэта друкаваліся ў «Настаўніцкай газеце», раённым друку, а таксама ў калектыўным зборніку паэтаў Вілейшчыны «Спатканне»... Каб пазнаёміць чытачоў з жыццёвым шляхам паэта, мы звярнуліся да яго ўдавы Аляксандры Паўлаўны. З яе аповедаў атрымаліся наступныя жыццёвыя замалёўкі.***

Уладзімір Мікалаевіч нарадзіўся 1 студзеня 1948 года ў вёсцы Старыя Дзевяткавічы Слонімскага раёна. Але запісалі яго 2 студзеня. Бацька будучага паэта памёр рана – яго забіла маланка. І маці засталася з шасцю дзецьмі на руках. Уладзімір быў перадапошнім дзіцём у сям'і. Скончыўшы Навадзевяткаўскую школу, ён працаваў загадчыкам клуба ў роднай вёсцы. Затым загадваў бібліятэкай там жа. Паступіў на завочнае аддзяленне ў БДУ і працаваў у школе. Каля 12 гадоў быў дырэктарам Хмяльніцкай васьмігодкі на Слонімшчыне, потым дырэктарам Дзевяткаўскай СШ. «Каля 1983 года мы пераехалі жыць на Вілейшчыну. Тады мы з Уладзімірам Мікалаевічам былі ўжо жанатыя. На Вілейшчыне разам працавалі ў Рабунскай школе.

Вельмі цікава мы з Уладзімірам Мікалаевічам пазнаёміліся. Ён тады працаваў дырэктарам Хмяльніцкай школы. А я толькі скончыла стацыянар літаратурна-музычнага педінстытута ў Мінску. І прыехала па размеркаванні ў Слонім. У аддзеле адукацыі заўважыла маладога мужчыну. Падышла да яго і спытала, куды мне трэба тут звярнуцца. Ён пацікавіўся, хто я і адкуль, а потым кажа: «Дык у маю школу патрэбен такі настаўнік». Усё-такі адразу мяне ў Хмяльніцкую школу не накіравалі, але ж ужо былі знаёмы. Пачалі з таго дня тэлефанаваць адзін аднаму. А праз год адбылося наша вяселле. Вось пасля гэтага я ўжо змагла пераехаць да яго».



Выхаваў Уладзімір Мікалаевіч трох сыноў.

Старэйшы, Вячаслаў, у школе намаганняў да вучобы не прыкладаў. Затое пазней пайшоў вучыцца завочна ў Ашмянскі педкаледж на спецыяльнасць правазнаўцы. Зразумеў, што без адукацыі немагчыма.

Сярэдняму сыну Аляксандру не вельмі пашанцавала. Ён быў самы здольны ў плане вучобы. Скончыў школу з залатым медалём, як і тата. Пасля школы паступіў у Полацкі універсітэт на факультэт эканомікі і кіравання ў прамысловасці. Але на 4 курсе, вяртаючыся позна ў інтэрнат, убачыў бойку. Вырашыў абараніць у той бойцы дзяўчыну і сам атрымаў траўму. Доўга праляжаў у бальніцы. Універсітэт прыйшлося пакінуць.

Малодшы сын, Алег, вучыцца завочна ў Акадэміі МУС і працуе на рамонтным заводзе юрыстам.

Шмат вершаў напісаў Уладзімір Весялуха яшчэ на Слонімшчыне. Калі ён быў дырэктарам Хмяльніцкай школы, яму прапанавалі выдаць паэтычны зборнік. Але Уладзімір Мікалаевіч адмовіўся. Сказаў, што яшчэ мала напісаў для таго, каб выдаваць кнігу. Ён заўсёды быў простым, сціплым чалавекам. Шмат часу аддаваў любімай справе, працаваў сумленна. Нават па начах праваў сшыткі, рыхтаваўся да ўрокаў.

І апошнія гады жыцця ён працаваў вельмі напружана: займаўся з дзецьмі, перапісваўся з калегамі, пісаў рэцэнзіі да кніг і падручнікаў. На вершы часу амаль не было. Да таго ж здароўе пагаршалася.

Памёр Уладзімір Мікалаевіч 1 жніўня 2004 года.

*Запісалі* ***Аляксей СЮДАК і Сяргей МАКАРЭВІЧ***

***Уладзімір ВЕСЯЛУХА***

### Максіму Багдановічу

*Паэта лёс не песціў:*
*Гадаваўся ў розных месцах*
*Далёка ад роднай Беларусі,*
*Хоць душою юнак сюды імкнуўся,*
*Каб голас чуць народа,*
*Адкуль ён выйшаў родам,*
*Удыхаць мядовы водар кветак*
*І любавацца хараством палеткаў.*
*Ды лёс яго не песціў:*
*Ён рос у розных месцах*
*Далёка ад роднай Беларусі,*
*Хоць сустрэцца з ёю так імкнуўся,*
*Свой смутак па Радзіме*
*(Што было ў яго адзіным)*
*Ён у вершах найчасцей выказваў,*
*Мо, таму і даваў ім назвы.*
*А лёс яго не песціў:*
*Ён жыў у розных месцах*
*Далёка ад роднай Беларусі,*
*Да якой настойліва імкнуўся.*
*І вось здзяйсненне мар паэта:*
*Ён – на Радзіме, і гэта,*
*Здаецца, збавіцельная ява...*
*Ды хутка ростань зноў – наперадзе Ялта.*

### Хлеб

*Хлеб – са стомы і поту,*
*Бяссоных начэй і трывог,*
*З мазалёў ад работы,*
*З бясконцых жыццёвых дарог.*
*Хлеб – з расы і туманаў,*
*І з сонечных промняў, зары...*
*Хлебу ўвесь я адданы,*
*З ім усё змагу я тварыць.*

# Вечна юны, мужны, урачысты

*Маладзечна, Маладзечна,*
*Мой паклон табе сардэчны,*
*Жыць у радасці і шчасці табе вечна,*
*Маладзечна, Маладзечна!*
***Адам Русак***

У Маладзечна, аднаго з буйных гарадоў нашай краіны, вельмі багатая і цікавая гісторыя. Упершыню яно ўзгадваецца 618 гадоў таму ў Прысяжнай грамаце князя Ноўгарад-Северскага княства Дзмітрыя Карыбута вялікаму князю літоўскаму Ягайлу (ён жа і кароль Польшчы Уладзіслаў). У ёй Дзмітрый Альгердавіч звяртаецца і «...к Великому Королеви Польскому Володиславу и к его королице Ядзьвизе...» «А дана та грамота в Молодечно... в лето божье 1388». І праз век клятва не была парушана, усе «паслушанни» ён вытрымаў з гонарам.

У горада – не просты лёс. На бойкім скрыжаванні дарог у Расію і Літву ён больш за дванццаць разоў знаходзіўся ў эпіцэнтры розных войнаў і вайсковых канфліктаў, выгараў (амаль ушчэнт) тры разы, насельніцтва горада пакутавала на цяжкія, невылечныя хваробы і ад эпідэмій... Але ў адрозненне ад многіх іншых паселішчаў, Маладзечна выжыла і не знікла з геаграфічнай карты. Горад толькі больш загартаваўся, узмацніўся, вырас! З драўлянага ператварыўся ў цагляны, стаў важным эканамічным і палітычным цэнтрам Вялікага княства Літоўскага.

Годна захоўвае Маладзечна памяць аб пакаленнях сваіх гераічных продкаў. Найважнейшыя вехі гісторыі сёння можна пабачыць у шматлікіх помніках, мемарыяльных дошках і знаках, у архіўных дакументах і музейных рэліквіях, у творах мясцовых мастакоў і паэтаў...

Хто толькі не быў на маладзечанскай зямлі! Тут засталіся сляды Напалеона і Кутузава. Горад бачыў мундзіры палякаў і венграў, французаў і аўстрыякаў, немцаў-кайзераўцаў і немцаў-гітлераўцаў. Міжволі напрошваецца пытанне: «Што ці каго вы тут згубілі?» Каля шашы Вілейка–Маладзечна стаіць велізарны ледавіковы камень-валун. На ім – мемарыяльная дошка ў знак перамогі над французамі ў вайне 1812 года. А каля шашы Маладзечна–Радашковічы ўдзячныя нашчадкі стварылі велічны помнік-ансамбль абаронцам Айчыны ўжо іншай эпохі – лётчыкам, якія загінулі ў вайне 1941–1945 гадоў. Паводле трагічнай статыстыкі, на маладзечанскай зямлі загінула больш за 35 000 чырвонаармейцаў, партызанаў і падпольшчыкаў, тут амаль 300 адзіночных і брацкіх магілаў. На тэрыторыі горада знаходзіўся канцлагер «Шталаг-342», дзе было замучана і расстраляна 33 150 мірных жыхароў і ваеннапалонных.



*Касцёл Св. Юзафа (пабудаваны ў 1993–1997 гг.)*

У сённяшняга мірнага Маладзечна – іншае аблічча. Вабяць вочы яго незвычайныя архітэктурныя формы і новабудоўлі, мноства кветак і зялёніны, спартыўных пляцовак... А найбольшы яго здабытак – людзі з іх дабрынёю, працавітасцю, сумленнасцю, душэўнасцю, сціпласцю, высокім патрыятызмам. Сярод іх мноства крывічанаў: Дубаневічы, Макарэвічы, Курмянёвы, Рафенкі... Дарэчы, пра таленты сям'і Рафеенкаў. Калі ў Маладзечне быў праведзены конкурс «Найлепшая сям'я горада», выкладчыкі школ Святлана Уладзіміраўна і Канстанцін Анатольевіч занялі першае месца, а іх сын Саша стаў адным з найлепшых у конкурсе дзіцячай песні «Паўднёвы экспрэс», што праводзіўся ў Юрмале. Родны брат Канстанціна Анатольевіча – супрацоўнік вайсковай часці Павел Анатольевіч – стаў пераможцам конкурса «Супермужчына». Ёсць у горадзе таксама свае кампазітары і таленавітыя музыкі, алімпійскія чэмпіёны і трэнеры, педагогі і будаўнікі, хлебаробы і медыкі, артысты, мастакі, паэты... Ну хто сёння не ведае пра заслужанага дзеяча мастацтваў, дырэктара Маладзечанскага музычнага вучылішча Рыгора Сямёнавіча Сароку? Ён кіруе калектывам, які ведаюць не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Прыбалтыцы, Чэхіі, Венгрыі, Іспаніі.

Зусім не выпадкова тут у 1993-м назаўсёды «прапісаўся» Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі. Менавіта ён даў пуцёўку ў жыццё многім маладым выканаўцам, сярод якіх Уладзімір Аўчароў, Максім Сапацькоў, Руслан Аляхно, Іна Афанасьева... Што Маладзечна, а не Мінск, стаў цэнтрам культурнага жыцця Міншчыны, гонар яго жыхароў, кіраўніцтва. Вы б толькі бачылі незвычайныя архітэктурныя формы Палаца культуры! Яго будавала ўся Беларусь. Атрымаўся цуд. Ён упрыгажэнне не толькі Маладзечна, але і ўсёй вобласці.

А найбольшую «падпітку» Маладзечна атрымлівае ад сваіх заводаў і фабрык, разнастайных фірмаў, аб'яднанняў і таварыстваў. Адзін з такіх калектываў – завод лёгкіх металаканструкцый. Ягоныя вырабы знаёмыя многім гарадам не толькі нашай краіны. Ды й славуты «дыямент» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі трымаецца на ягоных апорах!

І мае рацыю паэт, які сказаў:

*У нас кожны мае*
*кут свой родны,*
*Што з ім у памяці*
*навечна,*
*То, можа, Брэст,*
*А, можа, Гродна,*
*Ў маім жа сэрцы –*
*Маладзечна!*

***Мечыслаў СТАНКЕВІЧ,***
***г. Маладзечна***



*Будынак Дзяржаўнага палітэхнічнага каледжа, створанага ў 1960 г.*



*Палац культуры, дзе «прапісаўся» Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі*





# Шляхі зносін на Лоеўшчыне

## ў сярэдзіне XIX стагоддзя

*Вялікі ўплыў на развіццё той або іншай мясцовасці звычайна аказваюць геаграфічнае становішча і шляхі зносін, якія праходзяць праз гэтую мясцовасць. Не з'яўляецца выключэннем і Лоеўшчына. Так, узнікненне ў XI стагоддзі старажытнага паселішча Лоева Гара звязана з існаваннем днястроўскага воднага шляху «з варяг у грэкі» і абумоўленага ім актыўнага гаспадарчага жыцця на берагах Дняпра.*

*Доўгі час на Беларусі існавала толькі два віды транспарту: гужавы і рачны. Толькі з 2-й паловы XIX стагоддзя надышла эра чыгуначнага транспарту, а роля гужавога і рачнога паступова пачала змяншацца.*

Які ж быў стан шляхоў зносін на Лоеўшчыне ў сярэдзіне XIX стагоддзя, калі панавалі гужавы і рачны транспарт? Якія грузы тады перавозіліся? Пошукі і даследаванні гістарычных крыніц дазволілі знайсці цікавыя звесткі і зрабіць пэўныя высновы.

Гужавы транспарт у тыя часы займаў пануючае становішча па аб'ёмах перавозак. Праз Лоеў праходзіла паштовая дарога, аднесеная да першага разраду, якая вяла з Мінска праз Рагачоў, Рэчыцу, Лоеў у Чарнігаў. Ад Рагачова дарога ішла на Якімаўскую слабаду і ад яе, за выключэннем першых 37 км, па правай даліне Дняпра, якая перасечана значнай колькасцю яроў. Даўжыня дарогі ад Рагачова да Чарнігава складала 131 кіламетр, на ёй было 8 мастоў і 26 грэбляў. Дарога тут праходзіла праз вялікую колькасць вёсак, жыхары якіх зімой займаліся мясцовымі промысламі, вясной жа часта накіроўваліся на лесасплаўныя работы або заставаліся на гаспадарцы.

На гэтым шляху для паштовых і пасажырскіх перавозак на Лоеўшчыне ў 1857 годзе існавалі дзве паштовыя станцыі: у Ісакавічах з 6 фурманамі і 18 конямі, і ў Лоеве, дзе было 5 фурманаў, 5 паштовых экіпажаў і 12 коней. У Лоеве дарога перасякалася Дняпром, за якім ужо была Чарнігаўская губерня. Тут існавала пастаянная паромная пераправа на шастах.

У час разліваў Дняпра паромная пераправа ажыццяўлялася вельмі марудна, таму што патрабавала шмат сілы і спрыту, каб справіцца з хуткай плынню каля правага берага. Вядома, што ў Лоеве для пераправы з левага берага на правы патрабавалася да 3 гадзін часу, а з правага на левы пераправа ажыццяўлялася хутчэй, прыстань левага берага звычайна знаходзілася ніжэй па цячэнні, каля ўкраінскай вёскі Каменка. Для паскарэння пераправы тут выкарыстоўваліся два паромы. Другая пастаянная паромная пераправа знаходзілася ніжэй па Дняпры каля вёскі Глушэц, па дарозе з Мазыра на Чарнігаў.

Часовая ж паромная пераправа знаходзілася за 5 кіламетраў вышэй ад Лоева на так званым «московском извозе» – шляху, які вёў праз вёску Абакумы (у той час Магілёўскай губерні) на Гомель і далей у бок Масквы.

У часы вясенніх разводдзяў зносіны паміж правым і левым берагамі Дняпра наладжваліся толькі ў Лоеве і ў вёсцы Глушэц, а ў іншых месцах пераправы былі практычна немагчымымі.

Ад Лоева паралельна Дняпру да Брагіна, а адтуль праз пераправу на Чарнобыль вяла дарога, аднесеная да другой катэгорыі. Мела яна працягласць 114 кіламетраў, 2 масты і 39 грэбляў.

Што датычыць рачнога транспарту, то патрэбна заўважыць, што ў тыя часы ўжо з'явіліся першыя параходы, якія насілі назвы «Опыт» і «Польза». Яны належалі кампаніі Верхнядзвінскага параходства гвардыі палкоўніка Нарышкіна і княгіні Юсупавай. Адзін параход пад назвай «Іаан» належаў памешчыку Мальцову. Усе параходы былі металічныя, пласкадонныя, мелі рухавік магутнасцю 60 конскіх сіл і служылі для буксіроўкі суднаў, якія рухаліся ўверх па рацэ. Першыя два былі пабудаваны ў 1856 годзе ў Бельгіі, а «Іаан» быў пабудаваны на суднаверфі Мальцова ў Жыздрынскім павеце Калужскай губерні. Гэтыя параходы з поўным грузам дзённага запасу дроў мелі асадку ў вадзе 53 см, без дроў – 35 см.

Звычайна параходы з шасцю суднамі на буксіры рабілі рэйсы з Крамянчуга да Магілёва ў 2, 3 і нават 5 тыдняў, што залежала ад стану вады і пары года. За буксіраванне судна ўладальнік парахода атрымліваў 400–600 рублёў срэбрам, у залежнасці ад велічыні судна і груза, што па тым часе было вялікімі грашыма.

На Дняпры таксама выкарыстоўваліся пласкадонныя судны розных тыпаў і грузападымальнасці: берліны, баркі, шляры, плыты, дубы і іншыя. Берліны прыйшлі на змену байдакам, якія выкарыстоўваліся раней на Дняпры для сплаўнога і ўзводнага суднаходства.

Берліны былі рускай і нямецкай канструкцый. Судны рускай канструкцыі мелі даўжыню 33–42 метры, шырыню ад 2,5 да 2,7 метра, вышыню – ад 1,2 да 1,4 метра. Будаваліся яны з сасновага і яловага лесу на суднаверфях Магілёўскай губерні ў Беліцкім і Рагачоўскім паветах і ў Гарадоцкім павеце Чарнігаўскай губерні. Берліны мелі драўляны дах, мачту, якая была забяспечана двума ветразямі з падвоеным канатам.

Гледзячы па абставінах і мясцовасці, ужываліся розныя сродкі для руху. Калі быў вецер і на значным працягу Дняпра не было шматлікіх паваротаў, тады выкарыстоўваўся ветразь, там, дзе берагі не зараслі лесам, судны цягнулі людзі. Дзе ж на рэчцы былі высокія берагі, балоты, лясы і хмызнякі, выкарыстоўваліся жэрдкі, з дапамогай якіх прыводзіліся ў рух судны.

Судны праходзілі пад ветразем па ветры да 127 кіламетраў у суткі, супраць цячэння пад ветразем – да 64 км, пры жэрдках з дапамогай бурлакоў – да 21 км, а на канатным якары – да 16 км за суткі.

Берліны бралі на борт ад 65,5 да 196,5 тон груза, мелі асадку ад 71 да 120 см. Яны выкарыстоўваліся для ўзводнага і сплаўнога суднаходства і патрабавалі для ўзводнага суднаходства да 4-х рабочых на 16 тон груза, а для сплаўнога суднаходства – ад 8 да 14 чалавек. Акрамя рабочых, берліну вёў лоцман. Судна звычайна магло служыць да 7 гадоў.

Берліны нямецкай канструкцыі мелі даўжыню ад 32 да 40 метраў, шырыню ад 4,26 да 5, вышыню – ад 1,4 да 1,75 метра. Судны будаваліся ў Прусіі і Польшчы з добраякаснага сасновага, дубовага і яловага лесу і вызначаліся якаснай апрацоўкай, былі больш лёгкімі на плаву, чым рускія, але каштавалі даражэй. Яны падымалі на борт груз вагой ад 57 да 165 тон, мелі асадку ў вадзе ад 71 да 106 см і рухаліся з хуткасцю ад 2 да 7 км/г. Гэтыя судны патрабавалі для ўзводнага суднаходства 3-х рабочых на 16 тон, а для сплаўнога суднаходства – ад 4 да 8 рабочых. Такія судны маглі служыць 12 гадоў і болей.

Другім тыпам суднаў былі баркі. Яны мелі даўжыню ад 42,6 да 49 метраў, шырыню – ад 14,2 да 16,4 метра, вышыню – ад 1,4 да 1,75 метра. Яны мелі 2–3 якары на ўкосінах, вагой 1,6–2,4 тоны і бралі на борт груз вагой ад 65,5 да 82 тон. Баркі выкарыстоўваліся толькі для сплаўнога суднаходства.



*Чоўны – найбольш распаўсюджаны і сёння рачны транспарт*

Яны патрабавалі для праводкі аднаго лоцмана і ад 15 да 20 рабочых, у тым ліку правяжатых. Рабочыя на судне атрымлівалі 12–16 рублёў кожны за сходку з усіх прыстаняў Мінскай губерні да Екацярынаслава (зараз Днепрапятроўск), да Херсона – 12–18 рублёў пры сваім харчаванні. Лоцман атрымліваў пры сваім харчаванні 60–80 рублёў да Екацярынаслава і ад 60–100 рублёў да Херсона. Баркі праходзілі ў дзень пры бязветраным надвор'і ад 42 да 85 км, але пры значным спадарожным ветры плыць не маглі, таму што вялікі груз і памеры судна перашкаджалі хуткаму манеўру.

Баркі будаваліся ў некалькіх месцах на Дняпры: насупраць Каменкі, за 2 кіламетры ніжэй ад Лоева, дзе знаходзілася прыстань і месца для стаянкі суднаў, на Украіне, каля Лапаціна і каля Любеча, насупраць вёскі Лутава. Каля Любеча існавала зімовая пераправа, а баркі, пабудаваныя тут, мелі сваю асаблівую канструкцыю і насілі назву любецкіх. У Радулі раней будаваліся якасныя байдакі, але гэтыя судны да сярэдзіны XIX стагоддзя выйшлі з выкарыстання і былі заменены берлінамі. Для будаўніцтва барак лес прыганяўся ў асноўным з Бярэзіны і Свіслачы.

У 1857 годзе ў Лоеве жылі 4 суднапрамыслоўцы, якія мелі ва ўласнасці 9 сваіх суднаў. Прозвішчы гэтых суднапрамыслоўцаў нам пакуль невядомыя, але ёсць звесткі, што яны будавалі штогод 20–35 барак, якія выкарыстоўваліся толькі для сплаву. Калі баркі прыходзілі ў нізоўі Дняпра, іх прадавалі разам з прывезеным лесам. Да суднаў меншай грузападымальнасці належалі шляры і дубы. Шляры падымалі груз да 32 тон, дубы – ад 5 да 8 тон.

Уніз па цячэнні Дняпра ганяліся плыты будаўнічага лесу, сплаўляліся таксама камень, вапна, смала і гарэлка, уверх па Дняпры хадзілі на берлінах і суднах меншых памераў з соллю, збожжам.

Плыты лесу звычайна складаліся з двух частак, кожная з якіх мела даўжыню 8,5 і шырыню ад 5,3 да 7,5 метра. Некалькі плытоў, якія рухаліся адзін за адным, складалі ганец, даўжыня якога звычайна была 40–60 метраў. Колькасць калод у ганцы залежала ад таўшчыні лесу і была ад 250 да 500 штук.

Суднаходства ў раёне Лоева ў засушлівае лета часта ўскладнялася з-за водмеляў і пясчаных перакатаў. Асабліва шмат водмеляў было каля Холмеча, Чапліна, Мохава, Лоева, Дзеражычаў, Любеча. Гэтыя водмелі стваралі асаблівую пагрозу, калі судны ішлі адзін за адным. Вядома, што ў 1853 годзе каля Лоева разбіліся дзве баркі. Пярэдняя барка наткнулася на абмялелы бераг, а задняя наляцела на яе. Ад удару гэтыя баркі разбіліся і патанулі. Груз уратавалі, але гаспадар панёс страты на суму 2 000 рублёў.



*Дняпро ў Лоеве*

*Вядома таксама, што рачны транспарт мае адзін істотны недахоп – ён носіць сезонны характар. Рака Днепр працяглы час знаходзіцца пад лёдам. Ёсць дадзеныя за 10 гадоў (з 1848 па 1857 год) ускрыцця і замярзання Дняпра.*

| Гады | Ускрыццё | Замярзанне |
|---|---|---|
| *1848* | *7 сакавіка* | *7 снежня* |
| *1849* | *7 красавіка* | *22 лістапада* |
| *1850* | *4 красавіка* | *7 лістапада* |
| *1851* | *22 сакавіка* | *25 лістапада* |
| *1852* | *24 сакавіка* | *17 лістапада* |
| *1853* | *27 сакавіка* | *11 лістапада* |
| *1854* | *1 красавіка* | *19 лістапада* |
| *1855* | *19 сакавіка* | *10 лістапада* |
| *1856* | *2 красавіка* | *9 лістапада* |
| *1857* | *16 сакавіка* | *6 лістапада* |

*Такім чынам, за 10 гадоў Дняпро ўскрываўся прыкладна 25 сакавіка і пакрываўся лёдам 16 лістапада па старым стылі. Гэта значыць, што каля Лоева Дняпро знаходзіўся пад лёдам, у сярэднім, на працягу 129 дзён або больш за 4 месяцы.*

*Мікалай АНІСАВЕЦ,*
*старшыня праўлення Лоеўскага грамадскага аб'яднання «Карані»*

## Сусветны дзядзінец

**721 г. да н.э.** Першае апісанне сонечнага зацьмення (Вавілон).

**XV ст.** У беларускім выяўленчым мастацтве развіваецца жанр пейзажу.

**1774 г.** Англійскі хімік Дж. Прыстлі ўпершыню атрымоўвае чысты кісларод, які называе «новым відам паветра».

**1804 г.** Першы консул Францыі Н. Банапарт аб'яўлены імператарам Францыі.

**1876 г.** Расійскі інжынер П. Яблычкаў на Парыжскай выставе атрымоўвае патэнт на вынаходніцтва электрычнай лямпачкі.

**1904 г.** У адной з лонданскіх газет упершыню ў свеце публікуецца каляровы здымак.

**1939 г.** Пачатак зімняй цяжкай і «незнаёмай» савецка-фінляндскай вайны, у якой Чырвоная Армія панесла вялікія страты.

**1943 г.** Фашысцкія карнікі знішчылі беларускую вёску Хатынь. Жывымі згарэлі каля 150 чалавек, з іх 75 дзяцей. Усяго ў Беларусі гітлераўцы знішчылі 136 вёсак разам з іх жыхарамі.

**1945 г.** Пагібель фашысцкіх дыктатараў Мусаліні (растраляны італьянскімі партызанамі) і Гітлера (скончыў жыццё самагубствам).



*Русалачкі (беларускі варыянт славутай скульптуры?)*

*Фота Міколы ПІВАВАРА*

## З народнага

*Адзін пячнік клаў печ. Паложыць цагліну, пастукае па ёй і кажа:*

*– Як і была тут.*

*Паложыць другую, пастукае і зноў:*

*– Як і была тут...*

*Назаўтра прыходзіць – печ развалілася. Пачухаў пячнік патыліцу і прамармытаў:*

*– Гм... Як і не было тут.*

***

*– Эх і карак! Ну і карак! Вось гэта дык карак, – мармытаў цырульнік, падстрыгаючы кліента.*

*– А гэта таму, што я заўжды добра і смачна ем, – самазадаволена ўсміхаючыся, сказаў кліент.*

*– Ды еш ты, братка, хоць мякіну, – адказаў цырульнік, – але ж хоць зрэдку шыю мый.*

## Крыжаванка «Мсціславу – 870»

**Уздоўж**

**7**. Шчыльная маса, што ўтварылася з рэштказ балотных перагнілых раслін, якая ў сумесі з грунтам выкарыстоўваецца як угнаенне. **8**. Шматрадковая мяшаная пасадка кветкава-дэкаратыўных раслін, падабраных так, каб іх цвіценне працягвалася з ранняй вясны да позняй восені. Выкарыстоўваецца ў азеляненні Мсціслава. **10**. Ступень роднасці першага князя мсціслаўскага Мсціслава Раманавіча, які потым загінуў у бітве на р. Калцы ў 1233 г., заснавальніку Мсціслава Расціславу Смаленскаму. **11**. Вядомы публіцыст і вучоны XIX ст., гаспадар маёнтка Кудрычы. Яго працы друкаваліся ў «Земледельческой газете», склаў «Маларасійскі слоўнік». **12**. Адкрыты ці падземны ход зносін для паступовага і скрытага прыбліжэння да праціўніка. Выкарыстоўваўся ворагамі Мсціслава пры асадзе горада. **15**. У хрысціянстве – служыцель культу. **18**. Вежа – ... Галоўная вежа, якая стаяла пасярод Мсціслаўскага замчышча. **19**. Беларускі этнограф, археолаг, фалькларыст, які першым у 1893 г. даследаваў і апісаў гарадзішча Замкавай гары ў Мсціславе. **20**. Халодная зброя блізкага бою, якую ў старажытнасці выраблялі з крэменю, рогу, пазней з металу. На Беларусі, у т.л. на Мсціслаўшчыне, называлася пуйнал. **21**. Першы войт Мсціслава. З яго імем звязана атрыманне горадам у 1636 г. магдэбургскага права. **25**. Віленскі кнігавыдавец, які фінансаваў выдавецкую дзейнасць у Вільні П. Мсціслаўца. **26**. Вядомы ў Беларусі і за яе межамі гісторык, мастацтвазнаўца, археолаг. Ураджэнец Мсціслава. Яго старэйшы брат Мсціслаў – філосаф, паэт. **27**. Тонкі стрыжань з завостраным канцом для стральбы з лука, металічныя наканечнікі якога знаходзілі ў Мсціславе пад час археалагічных раскопак. **30**. Гатунак белай гліны, што ідзе на выраб фаянсавага посуду. Карысныя выкапні ёсць на Мсціслаўшчыне. **32**. Вёска ў Мсціслаўскім раёне, дзе нарадзіўся І. Манюшыс, былы Старшыня Савета Міністраў Літвы. **33**. Абрадавая страва на радзінах. **34**. Вядомы беларускі пісьменнік, аўтар эсэ «Мсціслаў», кніг «Дзікае паляванне караля Стаха» і інш. **35**. Вядомы беларускі і рускі друкар, гравёр XVI ст. Нарадзіўся ў Мсціславе. Разам з рускім друкаром І. Фёдаравым (па некаторых версіях – беларускага паходжання) выдалі «Апостал», «Часоўнік», «Псалтыр з часаслоўцам».

**Упоперак**

**1**. Беларускі вучоны, доктар філалагічных навук, прафесар. Ураджэнец в. Радзівонаўка. **2**. Гісторыка-этнаграфічны рэгіён, у які ўваходзіць тэрыторыя Мсціслаўскага раёна. **3**. Палацкрэпасць, які існаваў у Мсціславе ў XIV–XVIII стст. на высокім правым беразе ракі Віхра. **4**. Мсціслаўскі князь, сын вялікага князя ВКЛ Альгерда, таленавіты военачальнік. У час Грунвальдскай бітвы на чале войска памагаў ушчэнт разбіць войска Тэўтонскага ордэна, таксама – шведаў на Няве ў 1392 г. **5**. Беларускі археолаг, гісторык-медыявіст, грамадска-палітычны дзеяч. Ураджэнец г. Мсціслава. Вывучаў абарончае дойлідства, архітэктуру гарадоў X–XVIII стст.: Мсціслава, Міра, Койданава і інш. Аўтар шматлікіх прац. Разам з археолагам А. Трусавым – кнігі «Старажытны Мсціслаў». Яго імем у Мсціславе названа вуліца. **6**. «Мсціслаўскі...» – газета, якая выдавалася ў Мсціславе пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. **9**. Сусветнавядомы амерыканскі пісьменнік-фантаст. Ураджэнец Мсціслаўшчыны. Аўтар кніг «Канец вечнасці», «Стальныя пячоры» і інш. **13**. ...Смаленскі. Князь, з Устаўной граматай якога звязаны першыя звесткі пра Мсціслаў. **14**. Карысныя выкапні Мсціслаўшчыны, буйное радовішча якіх знаходзіцца каля паўднёва-усходняй ускраіны Мсціслава. **16**. Герой Савецкага Саюза. Ураджэнец в. Доўгавічы. Сержант, камандаваў стралковым аддзяленнем. У студзені 1945 г. першым фарсіраваў р. Одэр. Загінуў у баі. **17**. Беларускі этнограф, фалькларыст, мовазнавец. Быў рэктарам Мсціслаўскага духоўнага вучылішча. Аўтар прац «Беларускія прыказкі і прымаўкі», «Слоўнік беларускай гаворкі». **22**. У заходнееўрапейскіх сярэдневяковых манастырах – майстэрня, у якой перапісваліся кнігі. **23**. Стыль сярэдневяковай архітэктуры, у якім будаваліся касцёлы Мсціслава. **24**. Генерал-лейтэнант, ураджэнец Мсціслава. Удзельнік грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. У апошнюю быў памочнікам начальніка штаба Заходняга фронта. **28**. Праваслаўны храм, шмат якіх было ў даўніну ў Мсціславе і якія сваёй архітэктурай упрыгожвалі горад. **29**. Невялікая адтуліна, прасвет у чым-небудзь (перан.). **31**. ...Чарнобыльскі. Ваенны і палітычны дзеяч ВКЛ. У час Лівонскай вайны 1558–1583 гг. камандаваў войскамі на ўсходняй мяжы ВКЛ, г.зн. і на тэрыторыі Мсціслаўшчыны. Аршанскі ваявода, у 1579 г. прызначаны ваяводам Смаленскім. **33**. Мсціслаўская... Славутая архітэктурна-дэкаратыўная кераміка XV–XVIII стст. Вядомым майстрам па яе вырабе быў мсціславец С. Палубес, які ўпрыгожваў цэрквы, саборы ў Мсціславе, а потым у Маскве.

***Лявон ЦЕЛЕШ,***
***г. Дзяржынск***



***Адказы на крыжаванку просім дасылаць на працягу двух тыдняў.***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВІЛЕЙКА** – горад, цэнтр Вілейскага раёна, на рацэ Вілія. За 103 км ад Мінска, чыгуначная станцыя па лініі Маладзечна–Полацк. Да 2000 г. было звыш 30 тысяч насельнікаў.

Упамінаецца з 1599 г. як мястэчка – цэнтр Вілейскага староства Ашмянскага павета, а з 1795-га ў сувязі з новым падзелам Рэчы Паспалітай, дзе ВКЛ мела пэўную незалежнасць, – цэнтр павета. З 1796-га мела свой герб. У 1904 г. праз Вілейку прайшла чыгунка. З 1921 г. у складзе Польшчы, цэнтр павета. З 1939-га – у БССР, да 1960-га цэнтр Вілейскай вобласці. За час нямецка-фашысцкай акупацыі з 26 чэрвеня 1941 г. па 2 ліпеня 1944-га тут знішчана каля 7 000 чалавек, а горад быў амаль цалкам разбураны.

У Вілейцы ёсць прадпрыемствы лёгкай і харчовай прамысловасці, гісторыка-краязнаўчы музей, а з помнікаў архітэктуры – царква (1864), Крыжаўзвіжанскі касцёл (пачатак XX ст.).

За 1 км ад Вілейкі ёсць вадасховішча, на месцы зліцця ракі Віліі з рэкамі Сэрвач, Ілія, Касутка, што ўваходзіць ў гідразбудаванне Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Створана ў 1975 г. для водазабеспячэння Мінска, паляпшэння санітарнага стану Свіслачы, умоў адпачынку. Даўжыня яго берагавой лініі 137 км, найбольшая глыбіня 13,8 м.

Даследчыкі этнаграфіі асобна вылучаюць вілейскі строй – традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення, што ярка сфармаваўся ў XIX ст. і на які паўплываў гарадскі касцюм. У гэтым строі выявіліся арыгінальныя крої і прыёмы пашыву, шырокае выкарыстанне крамных тканін як для мужчынскага, так і жаночага адзення.

Для чытачоў варта зазначыць, што ў Вілейцы і на Вілейшчыне нямала краязнаўцаў, у тым ліку і ў вучнёўскім асяроддзі. Многія з іх нашы пастаянныя аўтары, некаторыя – пераможцы шматлікіх гісторыка-культурных віктарын, у тым ліку і тых, што праводзіць «Краязнаўчая газета». Спадзяемся, што яны дапоўняць сваім зацікаўленым словам як пра гісторыю, так і пра сённяшняе свайго краю.

**ВІЛЕНСКАЕ БАРОКА** – архітэктурна-мастацкая сістэма, што склалася ў манументальна-культавай архітэктуры ВКЛ у сярэдзіне XVIII ст. Яго архітэктурныя помнікі вызначаюцца вытанчанасцю прапорцый, скульптурнай пластычнасцю фасадаў і інтэр'ераў, маляўнічасцю сілуэта, утворанага шмат'яруснымі ажурнымі вежамі і фігурнымі атыкавымі франтонамі. Віленскаму барока, пашыранаму ва уніяцкіх храмах, уласцівыя не толькі пластычныя, але і кампазіцыйныя асаблівасці ў выніку спалучэння раманскіх і візантыйскіх стыляў, сімволікі.

Яркімі ўзорамі віленскага барока на Беларусі з'яўляюцца Полацкі Сафійскі сабор (пасля перабудовы 1738–1750), Беразвецкі кляштар базыльян, Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў, касцёлы ў Гродне, Оршы, Слоніме і інш. Важную ролю ў сцвярджэнні арыгінальнай школы гэтага накірунку адыграла творчасць архітэктара Іагана (Яна) Глаўбіца (1700–1767).

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасны – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26.
E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 15.06.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02.2004 г.)
Заказ 898.
Тыраж 1470 асобнікаў.